# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 40 (1586) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 5 КАСТРЫЧНІКА 1986 г. ЦАНА 10 зл.



Плён нясем мы, плён гаспадару ў дом.

## У дажынкавы вянок

Ваяводскія дажынкі, якія адбыліся ў Беластоку 14 верасня, ствараюць нагоду, каб пагутарыць аб выніках сялянскіх намаганняў за сёлетні ўраджай. Што тады прыпаднеслі яны ў дажынкавы вянок?

Гаспадар гэтых дажынак, інж. **Міраслаў Суровец, які з'яўляецца таксама гаспадаром і старшынёю ваяводскай рады Саюза сялян, гурткоў і сялянскіх арганізацый, а таксама першы сакратар Ваяводскага камітэта партыі, пасол Уладзімір Каладзеюк**, выступаючы, згодна адзначылі, што сярэдні сёлетні ўраджай для Беластоцкага ваяводства склаўся больш-менш на ўзроўні мінулагодняга ўраджаю. Пера-шкодзіла крыху надвор'е, асабліва зацяжная вясенняя засуха, якая адмоўна ўздзейнічала на ярыну і шпарчэйшы рост жыта ды азімай пшаніцы. Нягледзячы на гэта, нашы земляробы сабралі ў сярэднім па 24 цэнтнеры зерня з кожнага гектара пасеву. Такім паказчыкам ураджайнасці Беласточчына ў сваёй тысячагадовай гісторыі не магла дагэтуль рэкамендавацца.

Гэта добра сведчыць аб руплівай працы нашых сялян. Няма асноў, аднак, каб паддавацца празмернаму захапленню. Еўрапейскі ўзровень ураджайнасці (у Скандынавіі, Галандыі, ФРГ) падняўся ўжо амаль да 50 цэнтнераў з гектара. Нам гэта здаецца пакуль што маларэальным сном. Здараецца, аднак, што сны збываюцца. Я памятаю час, калі мы захапляліся 15-цэнтнеравым ураджаем з гектара і цяжка было нам паверыць, што ва ўмовах Беласточчыны можна будзе павысіць ураджай да ўзроўню 20 цэнтнераў. Не так даўно напісаў я ў „Ніве", што адзін селянін з Сакольскай гміны дабіўся 70 цэнтнераў збожжа з гектара. Гэта выклікала недавер і закіды ў мой адрас, што я быццам бы разводжу звычайную хлусню.

Але вось я наведаў сельскагаспадарчую выстаўку, якая бы-

(Працяг на стар. 4)

## З паездкі ў БССР

## Дзе яны, тыя дзеці?

Гаворка сёння пойдзе пра групу дзяцей з Польшчы, пераважна з Беластока і Беласточчыны, якіх ваенны лёс закінуў аж на бераг ракі Кама, у Каракулінскі дзіцячы дом. Дзе яны, тыя дзеці?

З гэтым пытаннем звяртаюся я да ўсіх нашых сяброў, да людзей добрай волі. Такая думка прыйшла мне ў галаву, калі знаходзіўся я ў пасёлку **Новая Расна,** што ў Камянецкім раёне, Брэсцкай вобласці. Новая Расна з'яўляецца цэнтрам праслаўленага калгаса „Савецкая Беларусь", дзе старшынёю — Герой Сацыялістычнай Працы, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, дэлегат XXVII з'езда КПСС — **Уладзімір Лявонцьевіч Бядуля.** Шмат чаго цікавага пабачыў я і даведаўся ў гэтым калгасе, які літаральна мяжуе з нашымі вёскамі, асабліва ў гмінах Нурэц-станцыя і Мельнік. Аб гэтым, аднак, іншым разам. Сёння хачу расказаць вам, сябры, гісторыю, якая мяне асабліва ўсхвалявала.

У калгасным музеі, які тут памяшчаецца ў новазбудаваным прыгожым будынку і называецца **„ЦЭНТР-ХЛЕБ"**, яго загадчык, кандыдат тэхнічных навук **Віктар Дзямянавіч Кармазін**, паказаў мне адзін дакумент. Вось яго поўны змест.

*„Масква, Крэмль.*

*Маршалу Савецкага Саюза Сталіну.*

*Мы, 42 выхаванкі Каракулінскага дзіцячага дома, пакідаючы гасцінны Савецкі Саюз і вяртаючыся на Радзіму, у Польшчу,*

(Працяг на стар. 6)




### Не так лёгка быць беларусам

Зацікавіла мяне публікацыя Аўроры „Каб было добра" ў „Ніве" ад 24 жніўня. Добра напісаная, амаль па-мастацку і сакавітай моваю! Так ужо складваецца, што наша маладое пакаленне заўзята пакідае ўсё сваё роднае, мову і традыцыі. Сёння быць беларусам (не цішком, а публічна) гэта справа для моцных людзей і недурных. Таму не кожны можа ім быць, не кожнаму хапае сілы волі, глыбіні інтэлекту, ведаў кніжных і някніжных. Нашы людзі таму хіляцца наогул у той бок, адкуль вецер дзьме. Праўда, сям-там па школах навучаюць беларускай мове. Аднак, хачу тут гэта сказаць абавязкова, у мяне такое ўражанне, што тое навучанне адбываецца толькі фармальна. Настаўнік не бярэ ў сваю душу таго, што робіць, вучыць дзяцей беларускай мове, а сам мае да яе халодныя адносіны, яму яна асабіста як бы і непатрэбная, нікому не дае ён прыкладу беларускага патрыятызму, шанавання беларускай культуры. Не гавораць яны па-беларуску ў сваёй большасці, нават калі збяруцца адны свае, беларусы з беларусамі. Ім беларуская мова ўсё роўна што заграчнічная якая, валодаюць ёю так, як некаторыя валодаюць, скажам, англійскаю. Гавару я гэта як бацька дзіцяці, маю права так гаварыць, і лічу, што павінен я гэта сказаць, і „Ніва" павінна гэта апублікаваць, бо ж не махлярства гэта, а чыстая праўда, пра якую ўсе ведаюць, якую ўсе бачаць і чуюць. Настаўнікі беларускай мовы часта паводзяць сябе не як патрыёты гэтай мовы, але як спецыялісты толькі, якія зарабляюць грошы на гэтым сваім уменні. Барскі гаварыў пра гэта, і я скажу. Яму можна, а мне — не?

Братэрства. Добрае слова. Але гэта не простая справа, да яго трэба дарасці. Само яно з неба не ўпадзе. Трэба дзеля яго ўзаемнай пашаны — каб беларус шанаваў паляка, а паляк беларуса. А ўсяляк бывае з гэтым шанаваннем...

І яшчэ адна справа, якая кранула мяне ў публікацыі Аўроры: хабарніцтва пісьманосцаў. Яна піша, што пісьманосцы не хочуць прыносіць рэнты, калі хто не дасць ім сто злотых. Я сам працую ўжо больш дваццаці гадоў пісьманосцам і таму, прачытаўшы такое, аж не паверыў Аўроры: няўжо ёсць такія пісьманосцы, якія паводзяць сябе, бы жабракі якія?! Пошта выдае

(Працяг на стар. 5)




# АБ ФЕНАМЕНЕ

Некалькі месяцаў назад прыходзіць з Амерыкі ў Польшчу касета з плёнкамі, на якіх запісаны песні амерыканскага беларуса Данчыка. Касета мае назву „Я ад вас далёка..." Загаловак узяты з вядомага верша Купалы, які пачынаецца ад слоў: „Я ад вас далёка, бацькоўскія гоні, на чужое неба гляджу сягоння". Верш гэты быў напісаны паэтам у Пецярбургзе, куды кінуў Купалу лёс у 1910 годзе. У творы гэтым выявіўся бязмежны боль паэта па далёкай радзіме — Беларусі. Гэты ж настрой пранізвае і многія песні Данчыка. Сапраўднае прозвішча артыста Андрусышын. Данчык — гэта яго дзіцячая мянушка, якая сталася з часам мастацкім псеўданімам. Данчык па маці з'яўляецца патомкам славутых братоў Луцкевічаў, якіх Купала і Колас называлі не без падстаў айцамі беларускага адраджэння ў так званую нашаніўскую пару. Мне пашчасціла быць у доме бацькоў Данчыка ў ЗША. Завёз мяне туды мой сардэчны апякун і сябра — пан Валодзя. Цудоўны дом і цудоўныя гаспадары з бацькоў Данчыка. Седзячы перад домам, які знаходзіцца на ўскраіне лясочка, елі мы каўбасу, адрэзваючы яе па кусочку з „хамута", і пілі гарэлку. Вечарам перайшлі ў дом і там зноў пілі і размаўлялі. Цікавымі былі ўспаміны бабкі Данчыча Каханоўскай, якую, калі яна была дзіцём, у 1911 годзе насіў на руках Максім Багдановіч, наведаўшы маёнтак Луцкевічаў.

Данчыка я не сустрэў. У той час ён знаходзіўся ў Еўропе, у Францыі. Але праз некалькі месяцаў наведаў ён Польшчу, між іншым, Беласток і Белавежу. Я, зразумела, вельмі хацеў прынамсі часткова аддзякаваць яму за гасціннасць яго бацькоў. На жаль, знайшліся сярод нашых беларускіх дзеячоў „добразычліўцы", якія, ведаючы аб тым, што я вельмі хачу сустрэцца з Данчыкам, увогуле не паведамілі мне аб яго знаходжанні ў Польшчы і ў Беластоку. Ну, але вядома, што сярод людзей найболей духоўнай мізэрноты. Так ці інакш, „спатканне" з Данчыкам стала цяпер фактам, дзякуючы яго касеце. Ужо раней выдаў ён некалькі пласцінак. Трэба сказаць, што песні з апошняй плёнкі ў параўнанні з песнямі з пласцінак (таксама добрымі) проста дасканалыя. Цэлымі гадзінамі можа ўжо тысячы разоў услухоўваюся я ў песні Данчыка. Песня як эмацыянальная з'ява каштоўная толькі тады, калі дзейнічае на нашу духоўную сферу. Песні Данчыка дзейнічаюць на гэтую сферу вельмі моцна. Думаю, што кожны чалавек, праслухаўшы песні Данчыка, калі і не стане лепшы, то прынамсі падумае аб чымсьці добрым, высакародным. У гэтым і праяўляецца сіла ўздзеяння Данчыкавай песні.

Колькі ж ёсць беларусаў, якія, жывучы на роднай зямлі, забываюць усё роднае і галоўны нацыянальны атрыбут — мову. Як жа звычайна і дзівосна, што Данчык — малады хлапец, народжаны ў ЗША, ніколі не быўшы ў Беларусі, навучыўся і захаваў крыштальную чысціню беларускай мовы. І якраз гэта і з'яўляецца, у маім успрыняцці, фенаменальнай з'явай. Паслухайце Данчыка. Спявае ён цэлую гадзіну. На працягу гэтай гадзіны ніводнага фальшывага ці чужога для беларускай мовы вымаўлення. Бездакорная фане-

(Працяг на стар. 5)




### У БЮРО ЦК КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ

Бюро ЦК КПБ на чарговым пасяджэнні разгледзела пытанне аб рабоце партыйных арганізацый Ваўкавыскага раёна па павышэнню дзейнасці індывідуальных форм і метадаў выхавання ў барацьбе за свядомыя, творчыя адносіны да працы і грамадскага абавязку, за „ачышчэнне жыцця ад праяўленняў, чужых нашай маралі". У прынятай па гэтаму пытанню пастанове адзначаецца, што гарком КПБ, пярвічныя партыйныя арганізацыі марудна перабудоўваюць арганізатарскую і ідэйна-выхаваўчую работу ў святле патрабаванняў XXVII з'езда партыі, чэрвеньскага (1986 г.) Пленума ЦК КПСС. Кіруючыя кадры і спецыялісты абмяжоўваюць сваю дзейнасць вырашэннем бягучых задач, не забяспечваюць глыбокага аналізу становішча спраў і новых падыходаў да вырашэння праблем паскарэння, важнейшых мэтавых задач у эканоміцы, сацыяльнай сферы і выхаванні людзей.

Бюро ЦК КПБ, прызнаўшы работу гаркома партыі недастатковай, запатрабавала ад яго прыняць рашучыя меры па ліквідацыі наяўных недахопаў, паскарэнню перабудовы арганізатарскай і ідэалагічнай дзейнасці аддзелаў ГК КПБ, пярвічных партыйных арганізацый, савецкіх, прафсаюзных, камсамольскіх і гаспадарчых органаў да дзелавы і канкрэтны стыль, свабодны ад устарэлых метадаў, заарганізаванасці і фармалізму. Гаркому КПБ прапанавана паслядоўна забяспечваць палітычныя метады кіраўніцтва, укараніць дакладна адладжаную сістэму публічнасці, вывучэння і аналізу маральна-палітычнай абстаноўкі ў працоўных калектывах, павысіць ролю індывідуальнай работы як важнейшай формы выхавання.

### „СВЯТЛО" ЗАМЕСТ БРЫГАДЫ

Як на далоні бачаць асвятляльную сістэму вялікага горада дыспетчары Наваполацкага вытворчага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Дапамагае ім у гэтым аўтаматызаваны комплекс „Святло", прызначаны сачыць за эканомным выкарыстаннем вулічнага асвятлення.

Электронны памочнік узяў на сябе нялёгкія абавязкі цэлай дзяжурнай брыгады. Яшчэ нядаўна электрыкі і вадзіцель спецмашыны кожны тыдзень аб'язджалі каля сарака падстанцый, затрачваючы аднаго бензіну на пўтары тысячы літраў у год. Цяпер жа ўсю неабходную інфармацыю можна атрымаць у лічаныя секунды непасрэдна на дыспетчарскім пульце. Адсюль лёгка і зручна „камандаваць" дзесяткамі тысяч лямпачак ва ўсіх жылых мікраёнах.

Укараненне аўтаматыкі дасць штогадовую эканомію электраэнергіі 164 тысячы кілаватгадзін. Гэтага немалога запасу Наваполацку хопіць на чатыры дзесяткі самых доўгіх начэй.

### ДЗЕ СІНЕЮЦЬ АЗЁРЫ

У сасновым лесе, напоўненым пахамі смалы, на тэрыторыі Любанскага раёна размясціўся санаторый „Рассвет". Тут адпачываюць і папраўляюць сваё здароўе сельскія механізатары, жывёлаводы, паляводы.

У рэспубліцы створана аб'яднанне міжкалгасных здраўніц „Белміжкалгасздраўніца". Яно і займаецца паляпшэннем санаторна-курортнага абслугоўвання калгаснікаў і іх дзяцей. Сёння ў яго сістэме — шэсць аздараўленчых устаноў. Гэта санаторыі „Бярэсце", „Парэчча", дзіцячы „Случ" і іншыя. Усе яны размясціліся ў маляўнічых месцах.

Сетка калгасных здраўніц у Беларусі ўвесь час расшыраецца. У гэтай пяцігодцы будуць уведзены ў строй санаторыі „Радон", „Бярозка", першая чарга санаторыя на беразе самага вялікага і прыгожага ў рэспубліцы возера Нарач.

### СПОРТ

Выдатна выступілі на XIV чэмпіянаце Еўропы па лёгкай атлетыцы беларускія спартсмены. На 1500-метроўцы мінчанка Равіля Аглетдзінава заваявала першае месца і стала чэмпіёнкай Еўропы. „Серабро" ў мінскага дыскабола Георгія Калнаотчанкі, „бронза" — у мінчанкі Кацярыны Храмянковай (марафонскі бег).

### УВЕКАВЕЧАНЫ Ў НАЗВАХ

Больш за 1 700 імёнаў увекавечаны ў рэспубліцы ў назвах гарадоў, вёсак, прамысловых прадпрыемстваў і аб'яднанняў, калгасаў і саўгасаў, плошчаў, вуліц. Хто яны, гэтыя людзі? За што дастойны яны памяці народнай? Адказ на гэтыя пытанні дае юбілейны энцыклапедычны слоўнік „Іх імёнамі названы...", які рыхтуе да 70-годдзя Савецкай улады выдавецтва „Беларуская Савецкая Энцыклапедыя". Кожнаму з герояў прысвячаецца асобны артыкул, які апавядае аб яго жыццёвым шляху і подзвігу.




### ДЗІВАЦТВЫ ФРАНЦУЗСКАЙ РЭКЛАМЫ

Заціснуўшы ў роце тоўстую цыгару, надзеўшы на галаву цыліндар, са старонак газеты „Монд" на вас ва ўпор глядзіць сам Напалеон Банапарт. Побач у рамцы змешчана адно з яго „выказванняў": „Пазыкамі „Крэдзі Насіяналь" я ўзвёў імперыю". Гэта рэклама аднаго з французскіх банкаў.

Рэклама запаланіла не толькі старонкі газет, часопісаў, эфірны час на радыё і тэлебачанні. Яна абрушваецца з гіганцкіх гарадскіх стэндаў. Ёю абклеены пажаўцелыя ад часу кафельныя скляпенні станцый метро і падземныя пераходы, тарцовыя сцены дамоў і гарадскія аўтобусы.

Але парыжская рэклама не столькі ўсюдыісная, колькі хітрая і дальнабачная. Няма, бадай, такога чалавечага пачуцця, на якім яна не спрабавала б сыграць. Вось маці з трывогай у вачах праводзіць сына ў далёкае плаванне. Ён падымаецца па трапе на карабель і, шчаслівa ўсміхаючыся, у апошнюю секунду паказвае на рукаве сваёй курткі нашыўку з эмблемай... страхавога таварыства. Як святлеюць у гэты момант твары праводзячых — гэта трэба бачыць! Або яшчэ. Муж прывозіць жонку ў радзільны дом. Хутка даносіцца дзіцячы крык... Думаеце, гэты кінаролік рэкламуе пялёнкі або паслугі дзіцячай малочнай кухні? Зусім не. За кадрам паралельна гучыць суровы голас: „Так нараджаецца энергія будучага". Гэта стварае сабе надзейную рэпутацыю ў спажыўцоў нафтавая кампанія „Таталь"... З асацыяцыямі тут няма ніякай адпаведнасці.

Салідны французскі часопіс „Нувель абсервацёр" вядзе спецыяльную рубрыку, дзе можна даведацца аб рэцэптах сучаснай рэкламнай справы. Хітра або нахабна, разлікова або бесшабашна, але гандляваць, лічыць ён, можна ўсім, у тым ліку і сабой. На гэты конт, дарэчы французскі штомесячнік „Базар" апублікаваў аналіз таго, як і дзе просяць міласціну парыжскія бяздомныя, беспрацоўныя, калекі, маці з дзецьмі, старыя, абарваныя дзеці.

А побач з гэтымі данымі даюцца некаторыя рэцэпты. Скажам, дзе лепш прасіць грошы — у метро або ў падземным пераходзе, у цэнтры горада або на яго ўскраіне? На каго і як рабіць стаўку: на спагадлівага турыста або на таго француза, які ўвесь унутрана калоціцца пры думцы аб тым, што заўтра яго самога можа чакаць такая ж доля. Парады даюць канкрэтныя. Лепш, напрыклад, пісаць не „я галодны", а „дапамажыце, мая сабака вельмі галодная". І гэтак далей...

У цынізма даволі высокая цана. Часопіс „Базар" прызначан зусім не для тых, хто ўдзень спіць пад рэкламнымі шчытамі ў метро. Дарэчы сказаць, часопіс гэты толькі што нарадзіўся — сёлета ў маі выйшаў яго першы нумар. Пры існуючай насычанасці інфармацыйнага рынку яму таксама трэба рабіць сабе рэкламу. Заяўляць аб сабе.

П. Я.

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 328

### ВОЗЕРА

Хадзі, дружа,
паглядзім,
як хвалюецца возера.
Пастаім у цішыні
задуманыя,
пакуль не пачуем з бяздоння
трывожнае рэха.

### СЛАНЕЧНІК

У гэтым доме
На парозе смутак прысеў.
Выехалі дзеці ў свет,
Ніхто пісьмаў
Маці не піша.
У пустым полі даўно
Пачарнелі іржышчы.
Там адзінокі, халодны
Крочыць кастрычнік.
Яшчэ калі сад
Стаіць у імгле,
Жанчына свой дзень пачынае.
Раннім вечарам
Гасне ў хаце святло,
Хоць матуля ўначы
Доўга глядзіць праз акно —
Усё чакае, чакае, чакае...

Ажно ранкам ўстае,
Ідзе да акенца:
— Сланечнік цвіце! Сланечнік
цвіце! —
Іскрыцца з радасці сэрца.
Зараз у хаце святлей,
Зараз у хаце ярчэй,
Весялей і цяплей...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Раптам чуе, як хтосьці
У дзверы пастукаў.
Можа, ў сонечны дзень
Пасля доўгай разлукі
Да жанчыны старой
Прыехалі дзеці, унукі?...

* * *

Кажаце, гэта праўда,
што ў маладым садзе
бура разадрала яблыню
і не здзейсняцца мары
аб залатой восені.

Гэта праўда,
што ластаўку ў час вяртання
параніў птах драпежны.
Загінула, нешчаслівая,
на чужыне далёкай.

І гэта праўда,
што ўражлівага чалавека
можна забіць словам,
каб ніколі не дачакаўся
найбольшай узнагароды.

А што вы скажаце,
калі злачынца, памыўшы рукі,
над галавой зару ўбачыў,
якая яго ўзнагародзіць
і ашчаслівіць?

### РАКА

Калі ўжо горад спіць
а з ім палова зямнога шара
адчыняю акно

Шэра-залаты прастор
у пакой уваходзіць
як сонны стэп

А там у ветразях таполі
звініць ціша
А там на палях моста
павісла неба

І толькі рака
шуміць быццам артэрыя
на заспаным поўным целе

І толькі рака як канал
злучае ночы з днямі
бяжыць уперад смела
пульсам аддзяліўшыся
ад вечнага маўчання цемнаты.

**Ю. Баена**




У голых эўкаліптах, быццам слёзы
Вісіць лісточкаў процьма нада мной.
А я хацеў бы, каб вось тут бярозы
Мяне абнялі снежнай белізной.

Замест агаў з вялізнымі лістамі,
Каб ліпы мне далі духмяны цень
На месцы ж руж з квяцістымі кустамі,
Каб васількі сінелі цэлы дзень.

Я тут хацеў бы ластаўку пабачыць,
Калі яна нырае над зямлёй,
І бусла даўганогага на хаце,
Акружанага белаю сям'ёй.

Аднак то толькі вычурныя мроі,
Не збыцца ім ніколі ў чужыні.
Ды часам мроі сэрца супакояць,
Туга, як рэха, згіне ў цішыні.

Тады і пальма веерам зялёным,
Як стройная дзяўчына, цешыць зрок,
І часта ў спёку пад яе каронай
Знаходжу я прыемны халадок.

Калісь любіў я гібкую папаю,
Якая мне глядзела у акно,
Ды віхар раптам у пачатку мая
Змяніў яе у сухое бервяно.

Замест яе здарове таманга
Ківае мне галінай, як рукой.
Калі ж з ім вецер затанцуе танга,
У шыбу звоніць, як скрыпач струной.

Цяпер я чую сотні розных птушак,
Іх песні льюцца, быццам з ручая,
І хоць яны мне міла лашчуць вушы,
Далёка ім да песні салаўя.

Аднак без іх было б мне вельмі сумна,
Як у сабory без ікон святых,
Я так прывык да іх забавы шумнай,
Што ўжо мне цяжка вытрымаць без іх.

Ужо не страшны яшчаркі навокал.
Як бегаюць па дрэвах, па сцяне,
Цяпер не адчуваю нават шоку,
Калі зайдуць у госці да мяне.

Не рэжуць вока бурыя каровы,
Што блукаюць па вуліцы ўвесь дзень,
Галодныя, худыя, без аховы,
Лянівыя і ціхія, як цень.

І буйвалы, так чорныя, як вугаль,
Рог кожны іх сагнуты, як спіраль.
За імі ж пастушок малы, без пугі,
Які жуе лісце бэтля, як міндаль.

А з боку іх блiскучыя дзве рыксы.
Іх цягнуць абадранцы-блазнюкі,
Сцягно і ногі брудныя адкрыўшы,
Развозяць коксу поўныя мяшкі.

З цікавасцю гляджу я, як жанчыны
Акуталіся з шыі аж да пят,
Хоць з неба безупыннаю лавінай
Спякота льецца, быццам вадаспад.

Усмешку часта бачу на іх тварах,
Дзе пот у сонцы ззяе, як раса,
Нярэдка ў каляровай светлай сары *
Праходзіць стройна смуглая краса.

Нясе на галаве сваю маёмасць
Так, як насільшчык носіць свой цяжар.
Мо цяжка ёй, ды не пакажа стомы,
Румянец рэдка выйдзе на загар.

Як лебедзі, праходзяць санітаркі
Аблытаныя белым палатном.
У блізкую бальніцу ў скромным парку
За шэраю цаглянаю сцяной.

Адна мяне сакрэтна прывітала:
Сказалі вочы: вечарам чакай!
А я падумаў: як мне трэба мала,
Каб сум душэўны замяніўся ў рай...

**Д. Шатыловіч**

Бакора, 1986.06.20.

* **сары** — спецыяльна падрыхтаванае палатно даўжынёй больш 5 м, якім індыйскія жанчыны абвіваюцца і носяць яго замест сукенак.

## ЯК БОСЫ БОТ РАЗЖЫЎСЯ

У мястэчку рабавалі жыдоўскае дабро. Гвалт чуўся да вечара. Свае не хадзілі браць; наз'язджаліся з вёсак, папрыходзілі з вакольных хутароў, тыя, хто не баяўся, што потым завозьмуцца пазнаваць іх.

З мяшчан рынуўся туды Босы Бот. Больш ніхто.

— Свайго не маеш, то і чужым не разжывешся, — нехта сказаў быў яму.

— Усё роўна, ля, людзі развалакаюць, — прабляяў Босы Бот. — Немец сам наказваў, ля, каб ісці... Жыдоў падушыць думае, ля, то і нічога ім не трэба...

Босы Бот — яго бацька за цара паехаў на шлюб у адных халявах ад зношаных ботаў — вываліў дзверы ў крамку, у якой куплялі пры паляках газу, соль, часам шыбы.

— Гут-гут, аборыгэн, — пахваліў яго жандар. — Дзішся васшэ, ютгро насшэ! — і пайшоў сабе далей растапыраным крокам пузатага чалавека з карабініскам за плячыма.

— Гут, ля, пане, — адкланяўся яму Босы Бот. І зараз жа пугнуў ад сябе вясковага дзецюка, якога падбухторыў выломваць (чым папала) завесы з крукамі. — Вон ад мяне, ля, хамут!

— Дзядзьку... — разявіўся той.

— Сабака табе, ля, дзядзькам!

— Каб не я, дык вы...

— Адыдзі, бо немца, ля, пакліччу!

Босы Бот нічога не валок, чакаючы, пакуль аціхне вэрхал, аж мужыкі павернуць аглоблі назад. „Гут, кажу табе, ля, падла ты, гут-цурук! — крычаў на тых, хто кваціўся залезці за ім у сярэдзіну, і рыхтых звягліва чыхаў ад раздораў. — Немец табе, ля, лапатнік ты, угрэе гумаў, хай я толькі скажу яму!"

І Босы Бот набраў усяго. Сам здужаў ён цалюткую скрыню шыбаў, а яшчэ і кадушку газы ды колькі мяшкоў солі на вайну. Каб паспець перад паліцэйскім часам, ён прыхаваў усенька спачатку ў асатах над ровам, куды цякла нечысць з рыштокаў Палясцінскай вуліцы; груку было яму з той скрыняю (поначы выстраліў раз і другі немец!). Аддыхаўся Босы Бот у гэтых шыпулях, мурзаючыся і абхопліваючы то мяшок, то кадушку і сіпла ад стомы нашэптваючы, бы шалёны ў полі: „Мае, мае вы, ля, дальбог мае ўсе!..." Столькі бачыў каваль Лейба, які сюдою якраз пракрадваўся ў лес да партызанаў.

Даў сабе рады Босы Бот. Яго дамок стаяў бліз таго выгана, у садку, а не на людскіх вачах.

Босы Бот, відаць, моцна спадаўся... Ён ужо нядоўга пажыў з тою здабычаю і памёр ад дзесяці хваробаў. Не распрадаў трохі шыбаў (пасля павыносілі іх суседзі, сваякі чамусьці не заявіліся). Грошы заграбаў, калі

(Працяг на стар. 6)

# У дажынкавы вянок

(Працяг са стар. 1)

ла наладжана з нагоды ваяводскіх дажынак. У адным з павільёнаў Ваяводскі асяродак сельскагаспадарчага прагрэсу (ВОПР) рэкамендаваў свае вынікі і сваіх найлепшых супрацоўнікаў. На плошчы ў 132 га збожжавых культур Беластоцкі ВОПР прымяняў у гэтым годзе комплексны метад вырошчвання збожжа. Комплексны метад — значыць гэтакі, які гарантуе самыя лепшыя ўмовы для дадзенай якасці глебы. Трэба тады ачысціць поле ад пустазелля, асабліва ад пырніку і чартапалоху, падкарміць яго натуральным і мінеральнымі ўгнаеннямі, засеяць адборным, гарантаваным зернем, сістэматычна праводзіць падкорм сцяблінак у час іх росту... Адным словам, трэба паклапаціцца, пахадзіць і папрацаваць. Ніякіх таемных ведаў ані чараў ці вядзьмярства тут не прадбачыцца. Усё вядома здаўна.

А вынікі? З гэтых 132 гектараў беластоцкія „вапроўцы“ сабралі амаль 620 тон збожжа, у сярэднім па 4,68 тон з кожнага гектара, значыць, амаль 50 цэнтнераў.

**Ян Федарук з Ягаднікаў**, што ў гміне Дубічы Царкоўныя, прымяняючы гэты ж комплексны метад вырошчвання збожжавых культур, дабіўся ў гэтым годзе ўраджаю на ўзроўні 75,5 цэнтнера з кожнага гектара сваіх пасеваў.

Не горшым ад Яна Федарука майстрам па ўраджайнасці з'яўляецца **Уладзімір Турковіч з Боцькаў**. Яго сярэдні вынік 7,30 тон/га. Гавару тут аб сярэднім ураджаі, бо пшаніца „Эміка“, для прыкладу, сыпнула яму ў гэтым годзе аж 8,2 тон/га! І гэта на глебе, якая па якасці ўмяшчаецца ўсяго ледзь у IV класе ўраджайнасці.

Можна было б яшчэ расказваць пра **Віктара Мартынюка** з вёскі Чыжыкі, у якога 5,81 т/га, і пра **Анатоля Пракапюка** з Вулькі, што каля Орлі (5,85 т/га), і пра **Мікалая Петручука** з Трасцянкі, і пра **Мечыслава Карольчука** з Фальваркаў Малых, што ў Заблудаўскай гміне, і пра **Станіслава Малахвея** з вёскі Кундзін на Сакольшчыне, і пра многіх іншых майстроў ураджайнасці, якія жывуць і гаспадараць у Беластоцкім ваяводстве. Усе яны на практыцы даказалі ўжо, што немагчымае становіцца магчымым, толькі найперш трэба хацець, а затым умець, ды ўрэшце мець магчымасць, значыць, мець сродкі вытворчасці, асабліва розныя машыны, хімікаты і адборны пасяўны матэрыял.

Праўда, зараз у распараджэнні дзейсных гаспадароў на Беласточчыне знаходзіцца 28 тысяч трактароў, 7 500 снопавязалак, амаль тысяча камбайнаў і вельмі многа іншых сельскагаспадарчых машын. Няма ўжо такой вялікай бяды, як даўней, з пакупкай акумулятараў і шын (апонаў) для трактараў, адчувальна папраўлілася пастаўка запасных частак, дзякуючы чаму менш было нараканняў на эскаэраўскія паслугі. На падзяку заслужылі калектывы СКР-аў у Янове, Шудзялаве і Орлі. Многія механізатары з гэтых паслуговых спулдзельчых арганізацый пабывалі ў полі на сваіх камбайнах у час жніва па звыш 200 гадзін. Хвалілі таксама многія калектывы ПГР-аў і спулдзельняў прадукцыйных, у тым ліку і спулдзельню ў Навакорніне, дзе старшынёю ўжо шмат гадоў з'яўляецца **Аляксей Тамашук.**

Сакратар Ул. Каладзеюк у сваім выступленні адзначыў, што ў далейшым першынство ў доступе да сродкаў сельскагаспадарчай вытворчасці гарантуецца найлепшым, найбольш прадуктыўным гаспадарам.

Можна не згаджацца з гэтакім вырашэннем справы, бо яно багатых яшчэ болей узбагачвае, а бедных даводзіць да цалкавітага заняпаду. Але наша краіна патрабуе як мага хутчэй дабіцца харчовай самастойнасці і няма тут месца на слязлівыя сентыменты. Зямля мусіць даваць высокі ўраджай і яна чым хутчэй павінна апынуцца ў руках тых гаспадароў, якія загарантуюць атрыманне высокага ўраджаю.

Ваяводскія дажынкі і сельскагаспадарчая выстаўка, наладжаная пры гэтай нагодзе, наглядна даказалі, што нават ва ўмовах Беласточчыны ёсць шанцы выйсці па ўраджайнасці на еўрапейскі ўзровень.



**Беластоцкая „Агрома“, установа, якая гандлюе сельскагаспадарчымі машынамі, паказала на выставачнай тэрыторыі навейшыя мадэлі машын, прапанаваных сялянам. Было сярод іх даволі многа машын, імпартаваных ад нашых усходніх суседзяў. Вялікае зацікаўленне выклікаў ліцэнзійны наш трактар „Масей-Фергусон“.**



**З рук старасты ваяводскіх дажынак Ежы Прушынскага сімвалічны „хлеб-соль“ з сёлетняга ўраджаю прымае прадстаўнік рабочага класа Казімеж Лямпарскі.**

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

## Так бывае...

### Шпітальная гісторыя

У наш шпіталь прывезлі жанчыну з Кляшчэляў. Гэтая жанчына не саромелася таго, што сама яна, будучы ўжо далёка не маладою, нарадзіла дзіця, дачушку. Яна ахвотна гутарыла з усімі. — Дзіця можна нарадзіць заўсёды, — паўтарала яна. — У мяне ўжо дарослыя дзеці, — гаварыла. — І, во, нарадзіла я сабе маленькае, каб было весялей на старасць...

Цікавасць нашая да гэтай кляшчэлеўскай жанчыны змянілася, калі ў нашу залу паклалі Лільку. Яна да ўсіх адносілася з талерантнасцю. — Ведайце, што Бог у нікога не будзе пытаць, якога ты веравызнання або нацыянальнасці. Ён будзе пытаць, як ты жыў, чалавеча, і ці выконваў добрасумленна ўсё тое, што прыстойным ёсць чалавеку...

Лільчыны навукі мелі і той добры вынік, што ў нашай зале неяк ніхто і нікога не папракаў у тым, чаму той-сёй гаворыць па-беларуску. Мы як бы дастайнейшымі парабіліся. Лілька можа і не ўсё разумела з нашай беларускай гутаркі, але яна ніколі, ані разутку не дала нам нават адчуць таго, калі мы перайшлі на польскую гаману. — Я вшыстко розумем, — паўтарала, усё роўна што баючыся, каб мы не пачалі для яе адной гаварыць не па-свойму. Вы разумеце мяне, я разумею вас!

Пасля з'явілася Анна. Яна безупынку плакала, яе малы сын быў таксама хворы і ляжаў у дзіцячым шпіталі. А ў другога яе сынка аб'явілася жаўтуха. Яна гэтаму сыну не магла дапамагчы нават сваёю крывёю, бо мела іншую групу, якая не падыходзіла да групы крыві сына. Я намагалася неяк падтрымліваць яе на духу, але гэтыя мае старанні няшмат дапамагалі ў ейным цяжкім становішчы. Ажно пасля, зусім неспадзявана я знайшла спосаб супакоіць Анну. Спачатку незнарокам сказала ёй такое: — Не забівайся так бядою, бо хутка пастарэеш... І гэтыя словы зрабілі чарадзейны ўплыў — Анна перастала плакаць!

Аказваецца, жанчына нічога на свеце не баіцца так моцна, як старасці. Толькі мужчыне не перашкаджае выгляд знішчанага твару свайго, а нават наадварот, прыдае яму гэты твар як бы спеласці, стабільнасці, жыццёвай упэўненасці.

А ёсць і такія жанчыны, якія не клапоцяцца пра сваіх дзяцей. Усё часцей чуваць, што дзяўчына, нарадзіўшы няшлюбнае дзіцё, выракаецца яго, не забірае са шпіталя. Такое дзіця аддаюць потым у нейкі дзіцячы дом, там яно гадуецца на кошт дзяржавы. Усяляк з тэтым яго гадаваннем там справы маюцца, без мацярынскага цяпла і бацькоўскай рукі. У Белавежы ёсць такі дзіцячы дом, у якім, казала мне знаёмая, бывае і такое, што дзесяцігадовае хлапчанё там бярэцца ўжо курыць, і спрабуй звярнуць яму ўвагу якую, дык так вызверыцца на цябе, што пашкадуеш свайго ўмяшання. Не дзіва — куранняткі з інкубатара, без квактухі, таксама не такія вясёленькія, а пеўнікі то і цалкам дзікія, кажучы для прыроднага прыкладу.

Калі выпісалі мяне са шпіталя і я пачала прыбірацца ў дарогу, усе вельмі мне зайздросцілі і сардэчна праводзілі.

**Аўрора**

# РАЙСКІЯ ДАЖЫНКІ

Свята ўраджаю на Бельшчыне адбывалася 7 верасня ў Райску. Хаця пагода стаяла паганая, ліў дождж, людзей наз'язджалася ў Райск нямала. Дажынкі арганізоўвалі сялянскія арганізацыі. Старшыняваў усяму Янка Заброцкі з вёскі Аўгустова. Гэта добры дзеяч. хаця грамадская праца не дае завельмі саладосці, хутчэй больш прыкрасці ды турбот, таму трэба тут моцнага характару, не падатлівага на перашкоды, на ўсялякія падкопы ды зласлівасці.

У праграме дажынак — шматлікія конкурсы. А з дажынкавымі вянкамі прыйшлі з вёсак Райск, Ляўкі, Кнарыды, Пілікі, Гацькі, з ПГРаў. Старасціхай была гаспадыня з Кнарыдаў Анна Матчук, старастаю ж — Уладзіслаў Ляўко з Плёсак. Самай векавою ўдзельніцай конкурсаў аказалася Анна Амбушкевіч з Ляўкоў, якой ужо 82 гады.

У агульнай ацэнцы конкурсаў найлепшае месца прызнана было ўдзельнікам з Райска (узнагарода — 10.000 зл.). На другім месцы былі Кнарыды (8.000 зл.), і на трэцім — Ляўкі (6.000 зл.). Два чацвертыя месцы былі прызнаны роўна Гацькам і Пілікам.

Не бракавала і гумару, вясёлых момантаў. Спявала школьная моладзь, мясцовыя „Згодныя макі", і, вядомая справа, папулярныя „Васілёчкі". На жаль, не пабачылі і не пачулі мы кнарыдскіх „Бярозак", у іх, бачыце, сваркі, падзелы нейкія пачаліся, а дзе падзел, там толку мала. Шкада, вельмі шкада!

Важнейшыя імпрэзы дажынак адбываліся ў мясцовым прыгожым Доме культуры. Такога будынка толькі пазайздраваць райскім людзям!

Пасля конкурсаў, ясная справа, не ўсе былі задаволены іх вынікамі, судом. Незадаволены быў і Ваня Максімюк з Ляўкоў, якому нічога іншага не заставалася, як пачакаць наступных дажынак. А калі б быў конкурс на лепшы абед, дык напэўна ўсіх перамагла б тады Валя Мамотка. Можа, на наступныя дажынкі арганізаваць такі менавіта конкурс? Добры абед дома гэта не менш важная справа ад добрай машыны ў полі — як паясі, так і працаваць будзеш.

**В. Семянюк, Райкі.**

# ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

**З сумленнем за рыбай**

Стаім пад крамаю за рыбай. У чарзе найбольш бабы. — Ці будзе тая рыба? — пытае невядома каго маладая жанчына. — Хто ж гэта можа ведаць, — адказваюць ёй амаль хорам. — — Людзей штораз болей, а рыбы штораз меней... Усе, хто хворы і здаровы, хто кульгавы і хто без рукі, усе бягуць саранчою ў горад, як тыя авечкі на пашу...

І так людзі стаяць сабе ў чарзе і гавораць, і гавораць. — То вёскі цяперака пустыя, ці як? — здзіўляецца тая ж маладзіца. — А каб вы тое і ведалі, — адказвае ёй чарнявая, на выгляд як бы толькі во што ўцёкшая адтуль, з вёскі, значыць. — У нас, — кажа яна далей, — колькі пустых хатаў стаіць, што аж страх увечары на вуліцу выйсці! Таму, калі даўней народ у вёсках тоўкся, то тады мястовым рыбы даволі было, бо і мястовых тых не было калісьці столькі, што цяперачы. Каго не ткні, то кожны мястовы...

Нейкая такая бабулька даўно ўжо хацела штось сказаць, але не магла ўшчыбіцца са сваім голасам у гэтую гаману. І нарэшце ўдалося ёй: — Во, гляньце, да чаго дайшло: бацькі дзецям цяпер непатрэбныя. Толькі адно і ведаюць: давай ім, давай, усё давай і давай, пакуль маці з бацькам жывыя. Ужо ад малога пачынаюцца прэтэнзіі дзяцей да бацькоў: то цацку занадта танную купіў, то грошай замала даў, бо калега дастаў ад свайго бацькі больш, і так без канца. А падрасце такое цяперашняе дзіця, дык яму зараз кватэру ў горадзе купі, і самаход удадатак, і ўсякія рэйгалы, а ён табе — сын бацьку — ну, чым паможа? Нічым, яшчэ і надуецца, што стары мала даў. У цяперашні час мець дзяцей гэта бяда, як я бачу, адны цяжкасці, а помачы тае ні на грош ад іх. Можа таму так, што людзі Бога забываюць, усё ў тэлевізар той вытрэшчваюцца, быццам даўнейшым часам на абраз святы. Старыя, і тыя падурэлі ад гэтых тэлевізараў...

Падтрымаў бабульку якісьці чалавечына: — Гінуць добрыя людзі, во колькі на сэрца памірае, а благіх і чорт не бярэ, п'юць-крадуць і век жывуць. Няма ўжо месца для сумленнасці, уцякае яна з гэтага свету... — У рай уцякае сумленнасць гэта ваша, ці як? — нехта перабіў яго і дакончыў сваё: — І цяпер ёсць сумленныя... — І што ім ад таго? — са злосцю перапытала тая чарнявая. — Цяпер сумленнага чалавека ніхто не шануе, дурнем лічыць.

Чарга загудзела: хто пагаджаўся, а хто і не.

— Дзяцей мець цяпер гэта няшчасце, — цягнула сваё бабулька (ці не старая паненка яна?). — Клопатаў і бяды ад іх па горла, а нават падзякі не прычакаеш, а на старасць дык і зусім пакінуць цябе, у дом старых засадзяць і там канай сабе...

Дзверы ў краму расчыніліся раптоўна. Натоўп шугануў усярэдзіну. Усе забыліся, пра што так нядаўна гаварылі. Усім было патрэбнае толькі адно: р ы б а!

**Аўрора**

## ЗАПУСЦІЛІ ЗЯМЛЮ

Каля прыпынка МПК у Відаве ёсць зямля Андрэя Артымовіча, які жыве ў Бельску. Уся яна зарослая высозным зеллішчам! Запушчаная. Калісь абрабляў гэту зямлю яго брат Мікалай. Радзіла яна тады бульбу, усялякую збажыну; давала карысць. Цяпер жа такі ладны кавалак пустуе, а зямля добрага класа. Ёсць некалькі пытанняў. Чаму браты Артымовічы не цікавяцца гэтай сваёй зямлёю? Чаму не пацікавіцца ёю і гміна? У краіне кожны кавалак зямлі, тым болей такой добрай, павінен быць засеяны, дагледжаны. У нас жа ўсё яшчэ хлеба мала, заграніцай дакупляем яго, а тут — такое марнатраўства!

Артымовічы могуць па тых ці іншых прычынах пакінуць зямлю, але яна павінна адразу ж перайсці ў наступныя рукі, дбайныя. Гміна павінна тут варухнуцца.

**Андрэй Гаўрылюк**

# РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ



Дом грамадскай апекі ў Сямяцічах. Графіка У. Петрука.

(Працяг са стар. 3)

# ЯК БОСЫ БОТ РАЗЖЫЎСЯ

жыў, у карты рэзаўся, ажно падаючы ў бяспамяць, піў, ванітуючы крывёю, падкіх на балянванне лындастых салдатак падманваў... Дамок, да голых сцен абадраны, хтосьці падпаліў, ці — можа і праўда? — папала ў яго снарадам, як савецкі фронт да гумнаў даходзіў...

Доўга пуставала гэтае месца; паставілі на ім свінаферму.

**Сакрат Яновіч**

(Працяг са стар. 1)

# З ПАЕЗДКІ Ў БССР

*выказваем Вам і савецкаму народу сваю шчырую падзяку і ўдзячнасць за клопаты і ласку савецкага народа, праяўленыя ў адносінах да нас, польскіх дзяцей.*

*Мы ніколі не забудзем чатырох гадоў, праведзеных у Савецкім Саюзе, часова замяніўшым нам бацькоўскі дом і родную зямлю, пакінуць якую прымусіў нас крывавы фашызм.*

*У вызваленую доблеснай Чырвонай Арміяй і геройскім Войскам Польскім нашу Айчыну вязем мы самыя глыбокія пачуцці дружбы вялікага савецкага народа да нацярпеўшагася польскага народа. Мы будзем лічыць сваім свяшчэнным абавязкам умацоўваць і пашыраць польска-савецкую дружбу, якая з'яўляецца найлепшай апорай для нашай свабоды і незалежнасці.*

*Прыміце нашы самыя добрыя пажаданні Вам і савецкаму народу.*

*Польска-савецкая граніца, 31 мая 1945 года.*

*Па даручэнню выхаванкаў — Тадэуш Нізінскі, Альфрэда Бароўская, Раман Зайкоўскі, Ірэна Кібалка, Алёна Шмайда".*

— Наш музей „Цэнтр-Хлеб" — паясніў Віктар Кармазін, — хоча ўвекавечыць памяць аб выратаванні ваеннага пакалення дзяцей і моладзі... Гісторыю выратавання групы польскіх дзяцей мы таксама хочам уключыць у пастаянную экспазіцыю нашага музея. Больш — рашылі мы наладзіць у Расне сустрэчу гэтых выратаваных польскіх выхаванкаў Каракулінскага дзіцячага дома ды іх выхавальцаў — людзей, якія ў люты час вайны замянілі ім бацькоў і родны дом. На жаль, пакуль што мы не ведаем, дзе явы жывуць на тэрыторыі Польшчы і не маем поўнага найменнага пераліку. Вось каб вы захацелі нам дапамагчы!

Вядома, што захацеў бы! І маю надзею, што ў мае пошукі ўключацца ўсе людзі добрай волі, да якіх дойдуць гэтыя словы. Я перакананы ў тым, што неўзабаве мы зможам наладзіць сустрэчу з першымі героямі гэтай гісторыі.

А пакуль што хацелася б ведаць, як гэты навуковы супрацоўнік вясковага, калгаснага, музея натрапіў на след гэтых колішніх выхаванкаў Каракулінскага дзіцячага дома. Тады Віктар Кармазін паказаў мне наступны дакумент. Гэта ўспаміны заслужанага настаўніка РСФСР і Удмурцкай АССР — *Самуіла Маркавіча Пеўзнера*, у якіх ён сцвярджае:

*„21 чэрвеня 1941 года мы рыхтаваліся да адкрыцця піянерскага лагера ў Друскінікае. З Беластока з падарункамі прыехалі госці...*

*Наступнага дня з ранку фашысты перайшлі граніцу. Адразу атрымалі мы ўказанне аб эвакуацыі дзяцей.*

*Тысячы людзей сабралася на невялічкай прывакзальнай плошчы і на вакзале. Плач, крыкі. Дзяцей беластоцкага і літоўскага піянерскіх лагераў, а таксама і дашкольнага санаторыя саджалі ў перапоўненыя вагоны не толькі цераз дзверы, але і цераз вокны. Многія дарослыя ўладкаваліся на дахах вагонаў.*

*...Вечарам, 22 чэрвеня, састаў рушыў у напрамку Парэчча — Гродна. За Парэччам чыгунка была разбурана, знішчаны мост на Нёмане. Начальнік эшалона пад пагрозай зброі прымусіў машыніста павесці цягнік у на-*

## ЭЛЕГАНТКА КРАДЗЕ КАПУСТУ

Пачаўся грыбны сезон і, як толькі прыходзіць субота з нядзеляю, пруцца ў лес натоўпы гарадскіх бэтнікаў (едуць па грыбы, інакай кажучы: па бэткі). Атручваюць яны ды вельмі засмечваюць натуральнае асяроддзе лесу, топчуць усё жывое ў ім, пужаюць звяр'ё. Але пры гэтым можна пабачыць і такую сцэнку, якую я сам наглядаў у нашай мясцовасці 6 верасня каля чацвертай гадзіны пад вечар.

Праязджала тады навейшага тыпу „Волга" стальнога колеру з нумарам WHW-314H і раптам затармазіла яна каля вёскі, насупраць агародаў. Выбегла з тае „Волгі" падгалая жанчына ў модным адзенні, дапала яна з нажом у руцэ да загона з капустаю, выразала там некалькі галовак, такіх буйнейшых, і галопам вярнулася назад, з тымі галоўкамі ўжо на бярэмі ды шпурнула іх у расчынены багажнік машыны. Сама яна хуценька села ў машыну, і „Волга" ВГВ-314Г ірванулася з месца, ажно пыл за ёю куралём закруціўся над дарогаю.

Стаяў я так, гледзячы на тое зладзейства, ды думаў сабе: напэўна службовая гэта машына, і на службе знаходзіліся тыя людзі ў ёй, тая жанчына, бо дзень быў тады зусім будзённы (працоўная субота), але яны, пэўна, схітрылі пабываць і ў грыбах і ў чужых агародах...

**М. Лук'янюк**
з Белак-2 к/Трасцянкі

## ПУСТЫ ДОМ

У Нараўцы ля вуліцы 22 Ліпеня стаіць мураваны дом. Будзе больш года ўжо, як стаіць гэты дом пусты, нават вокны ў ім дзеці пачынаюць выбіваць. Аж дзіўна, што ніхто дагэтуль не зацікавіўся гэтым будынкам, які, крыху падрамантаваўшы, можа быць цалкам добры для пару сямей. Тым больш, што каля дома ёсць гаспадарчыя збудаванні, ёсць і гараж, і скляпы.

Цяжка робіцца на сэрцы, калі бачыш такое марнатраўства.

**Э. Вайсковіч**



# ШКОЛА, ЯКОЙ УЖО НЯМА

Лясны тэхнікум у Белавежы, праслаўлены ў цэлай Польшчы высокім узроўнем навучання, заснаваны быў неўзабаве пасля заканчэння апошняй вайны. Аднак традыцыі навучання лясному рамяству маюць свой пачатак у даваенны яшчэ час. Некаторым чытачам „Нівы" будзе зразумела, што маю я тут на ўвазе існуючую тады Дзяржаўную школу для ляснічых. Школа гэтая была адчынена 28 верасня 1929 г. Змяшчалася яна ў заходнім крыле царскага палаца, пабудаванага ў Белавежы пры цары Аляксандры III. Мела яна характар ніжэйшай прафесіянальнай школы. Ад яе кандыдатаў патрабавалася заканчэння сямі класаў пачатковай школы, узросту 17-20 гадоў і мінімум гадавой практыкі ў ляснoй службе. Навука працягвалася два гады: на працягу адзінаццаці месяцаў адбываліся лекцыі ў школе і адзін год — практыка. Выпускнікі атрымлівалі пасведчанні аб заканчэнні школы. Навучанне было бясплатнае, але вучні абавязаны былі жыць у платным школьным інтэрнаце. Плата — у залежнасці ад года навучання — складала суму ад 55 да 75 злотых. Вучні мелі свой саюз — пушчанскае брацтва, свой сцяг, бібліятэку, ансамблі (тэатральны, музычны) а таксама спартыўнае абсталяванне. У час навучання арганізоўвалі навуковыя экскурсіі (напрыклад, у чэрвені 1932 г. гасцявалі ў тарунскіх леснікоў).

Школа праіснавала да канца ліпеня 1936 г. Кандыдаты, якія былі прыняты ў яе на наступны навучальны год, апынуліся ў іншых лясных школах — у Маргоніне, Балехаве і Цешыне. Белавежскую школу закончыла разам сто шэсцьдзесят чалавек (вучылася дзвесце). Кіраваў школай дырэктар Нацыянальнага парка, інж. Ян Ежы Карпінскі. Настаўнікамі ў ёй былі інж. Антоні Кухарскі (адначасна намеснік кіраўніка) і выхавацель Святаслаў Касцеша-Калакоўскі. Навучалі тут таксама: дырэктар Дырэкцыі лясоў Стэфан Мадзалеўскі, інж. Баляслаў Пангоўскі, лекар Мар'ян Лаўрыновіч і ксёндз Юзаф Даўгяла.

Цікава, колькі выпускнікоў гэтай школы яшчэ жыве? Мо хто з іх адгукнецца на гэты мой артыкулік і больш раскажа пра тадышняе школьнае жыццё...

**Пётр Байко**

Фота з архіва Нацыянальнага парку ў Белавежы.

*прамку Марцінконіс-Вільнюс.*

*Эшалон паддаваўся частым бамбёжкам і абстрэлам. Старшыя піянеры, якія займалі пасты на вышках вагонаў польскай прадукцыі, падавалі сігналы аб паветранай трывозе. Састаў спыняўся, усе разбягаліся па лесе. Дарослыя пасажыры і старэйшыя хлапчукі бралі на рукі малышоў і хворых. Дарослыя дзеці рускай, беларускай, літоўскай, польскай, яўрэйскай ды іншых нацыянальнасцей жылі ў дарозе, як вялікая сям'я. Аднойчы, пасля абстрэлу, доўга не маглі знайсці 7-гадовага Уладзіка Кучэўскага. Піянер Сямён Любашыцкі пасля доўгіх пошукаў выявіў яго, спакойна спячага ў кучы ламачча.*

*У Вільнюсе эшалон павялічыўся ўдвая. Былі яшчэ дачэплены вагоны з грамадзянамі сталіцы Літвы. Рушылі на Мінск.*

*Не хапала хлеба, вады і іншых прадуктаў. На дзяцей зваліліся цяжкія выпрабаванні. Маленькая Міра Латоўская не прымала ежу, прасілася да мамы, да брацікa, не разумеючы, чаму яны ўсё едуць і едуць...*

*Асабліва страшэнны абстрэл абрушыўся на нас на станцыі ў Лідзе і каля Маладзечна.*

*...Сардэчна прывітала нас Казань. Дзецям наладзілі ўрачысты абед, раздалі падарункі...*

*У Сарапулі дзяцей размясцілі ў загадзя падрыхтаваных памяшканнях дома адпачынку „Учитель".*

Сарапуль знаходзіцца на беразе ракі Кама. Дзяцей, аднак, асатакова абсталявалі ў **Каракулінскім дзіцячым доме.** Гэта таксама на беразе Камы, у 58 кіламетрах па шашы на поўдзень ад Сарапула. Гэта **Удмурцкая АССР.** Там яны правялі 4 гады, не ведаючы, што такое жахі вайны і гітлераўскае зверства. Сведчыць аб гэтым ліст Тадэвуша Лясоцкага, аднаго з выхаванкаў Каракулінскага дзіцячага дома, які ён 15 жніўня 1963 года накіраваў Самуілу Маркавічу Пеўзнеру.

*„Дарагі Самуіл Маркавіч!*

*Атрымаў ад Вас тэлеграму з нагоды Дня Адраджэння Польшчы. Якая ж была радасць! То ж прайшло больш за 20 гадоў, калі мы апошні раз развіталіся з Вамі ў Беластоку. Калі сустракаемся з кім-колечы з нашых хлопцаў, дык заўсёды ўспамінаем Вас, як Вы за нас клапаціліся. То ж мы амаль вайны не ведалі, а колькі ж польскіх дзяцей немцы вывезлі, а колькі забілі! Кожны з нас вельмі добра разумее, што былі гэта гады цяжкай вайны, а мы ўсе былі адзеты і галоднымі не хадзілі, і ўсіх нас Вы прывезлі проста ў рукі бацькам, якія лічылі, што нас няма ўжо сярод жывых.*

*Цяпер мы з'яўляемся дарослымі людзьмі, але гэтыя дзіцячыя гады ў Каракуліна ніколі не забудзем і ўсё жыццё будзем Вам, усім выхавацелям і ўсяму савецкаму народу за ўсё гэта вельмі ўдзячны..."*

Для парадку давайце яшчэ раз пералічым вядомыя ўжо прозвішчы:

**Тадэуш Нізінскі, Альфрэда Бароўская, Раман Зайкоўскі, Ірэна Кібалка, Алёна Шсмайда, Уладзіслаў Кучэўскі, Сямён Любашыцкі, Міра Латоўская і Тадэуш Лясоцкі.**

Хто ведае, дзе яны зараз? У цытаваных тут дакументах часта паўтараецца назва горада Беластока. Можна тады спадзявацца, што амаль усе 42 даўнейшых дзяцей выводзіліся з Беластока і Беласточчыны. Дзе яны, тыя дзецi?

Адказу чакае „Цэнтр-Хлеб" у Расне і чакаю я —

**Віктар Рудчык**

## БЕЛАРУСІКІ


**1966**

Budko W.D.: Paleolit Białorussii. Leningrad 1962. Rec.: Marczak Maria, Acta Baltico — Slavica. v. 4: 1966 s. 195—199.

Kopysskij Z.Ju.: Ekonomiczeskoje razwitije gorodow Biełorussji w XVI — pierwoj połowinie XVII w. Minsk 1966. Rec.: HORN Maurycy, Roczniki Dziejów Społecznych i Gospodarczych T. 28: 1966 s. 155—158.

Kotarbiński Tadeusz: Typowcy i dysydenci. (Problemy narodowościowe w Polsce Ludowej). Tygodnik Kulturalny 1966 nr 5 s. 1.

Leeming Henryk: Polskie źródła tzw. „skróconej" leningradzkiej redakcji białoruskiej „Aleksandryi". Slavia Orientalis 1966 nr 3 s. 321—322.

Lovell Jerzy: Polska, jakiej nie znamy: Mniejszości: egzotyka czy problem? — Choral na trzy głosy. — Chorału ciąg dalszy. Życie Literackie 1966 nr 6 s. 3, nr 7 s. 1, nr 8 s. 5.

Lovell Jerzy: Polska, jakiej nie znamy: Białorusini. Życie Literackie 1966 nr 9 s. 3, 5.

Wokół „Polski jakiej nie znamy". (Reportaże o mniejszościach narodowych). Fragm. wypowiedzi: Edward Prus, Jerzy Tomaszewski, Jerzy Chmara, Sokrat Janowicz, Mieczysław Adamczyk, Sergiusz Krejza, J.A. Musianowycz. Oprac. Jerzy Lovell. Życie Literackie 1966 nr 22 s. 11, nr 23 s. 13.

Zagorulskij E.M.: Archieologija Biełorussii. Mińsk 1965. Rec.: Antonowicz Jerzy, Acta Baltico — Slavica. v. 4: 1966 s. 185—195.

**1967**

Tomaszewski Jerzy: Robotnicy Białorusini w latach 1919—1939 w Polsce. Acta Baltico — Slavica t. 5: 1967 s. 93—116, tabl.

Zdanowicz Tadeusz: Wpływy białoruskie w polskich gwarach pod Sejnami. Poznań 1966. Rec.: Smułkowa Elżbieta, Acta Baltico — Slavica t. 5: 1967 s. 440—447; Zdaniukiewicz Alojzy Adam, Poradnik Językowy 1967 z. 10 s. 458—460.

**1968**

Araszonkowa Anna, Mackiewicz Józefa: Ab biełaruskich dyjalektnych rysach zachodniaha pagraniczcza. Slavia Orientalis 1968 nr 3 s. 275—280.

Chackiewicz Aleksander: Polskije internacyonalisty w borbie za własť sowietow w Biełorussii. Mińsk 1967. Rec.: Sobczak Jan, Z Pola Walki 1968 nr 4 s. 220—223.

Deruga Aleksy: Z dziejów sprawy białoruskiej w latach 1917—1918. Przegląd Historyczno-Oświatowy 1968 z. 4, s. 710—740, tabl.

Dyjalektałahiczny atlas biełaruskaj mowy. Mińsk 1963. Rec.: Obrębska-Jabłońska Antonina, Slavica Orientalis 1967 nr 2 s. 181—186.

Kamienskaja Nina: Białoruś w okresie wojny polsko-radzieckiej (styczeń 1919 — marzec 1921 r.). Tłum., Z Dziejów Stosunków Polsko-Radzieckich t. 3: 1968 s. 79—96.

Kopysskij Z.Ju.: Ekonomiczeskoje razwitije gorodow Biełorussii w XVI — pierwszej połowie XVII w. Mińsk 1966. Rec.: Aleksandrowicz Stanisław, Kwartalnik Historyczny 1968 nr 2 s. 411—420.

Pawluczuk Włodzimierz: Białorusini jako grupa etniczna. Studia Socjologiczne 1968 nr 2 s. 35—50.

Pochilewicz Dmitrij: Krestjanie Biełorussii i Litwy wo wtoroj połowinie XVIII wieka. Wilnus 1966. Rec.: Topolska Maria Barbara, Roczniki Dziejów Społeczno-Gospodarczych t. 29: 1968 s. 160—164; Żytkowicz Leonid, Kwartalnik Historyczny 1968 nr 1 s. 115—123.

Smułkowa Elżbieta: Ze studiów nad słownictwem białoruskim. Slavia Orientalis 1968 nr 2 s. 237—251, mapy.


**P.C.**

### Беларускія прыказкі

Вока бачыць далёка, а галава яшчэ далей.

*

Вучэнне без умення не карысць, а бяда.

*

Гады старыя, а розум дзіцячы.

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

### ЗА ВЯСЕЛЬНЫМ СТАЛОМ

У мінулым мяса на вясельныя сталы падавалася ў вялікіх кусках. Абавязкам маршалка было мяса парэзаць на драбнейшыя кускі. У многіх вёсках маршалак мыў рукі пры гасцях, стараючыся паплёскваць на іх ваду. Выцершы рукі прыпаднесеным яму ручніком, выцягваў з-за халявы ўласны нож і пачынаў рэзаць мяса. Паводзіны свата падчас працэсу рэзання мяса залежалі ад яго тэмпераменту. Адзін рабіў гэта з выключнай старанлівасцю і канцэнтрацыяй, другі са свабодай і пэўнай нядбайнасцю. Некаторыя маршалкі пры гэтым маўчалі, іншыя расказвалі анекдоты і прымаўкі. Здараліся і такія, што, абрэзаўшы мяса, абгрызалі косці і кідалі іх пад стол або за акно, калі там не стаялі запарожнікі. Юлія Салавей з Багнюкоў выказваецца на гэту тэму наступным чынам: „Ой, за тым весельным сталом то вельмі парознаму бывало. Калісціка, калі я была ужэ дужманым дзеўчуком, то вельмі хацеласё пайсці на веселе паглядзець што там робіцца. То, бывало, умешаешсе у тлум запарожнікоў і сташ цэлымі гадзінамі і угледаешсе. То яно не было калісціка так як сегодне, што і мясо, і каўбаса, і паштэты і усе парэзано і кажды мае і сваю чарачку, і сваю тарэлачку, і свой відэльчык. Калісь было па-другому. Прывалакут на стол кусішчэ мяса або свіную голоў. А у нікого німа ні відэльца, ні ножа, толькі самы рукі. Ну, то тады браўся за работу сват, каторого часто маршалком называлі. Бывало, закоціт рукавы, памые пры гасцях рукі, вытрэ іх ручніком, выцягне з-за халявы доўгаго нажа і як ні замахнецца з-за вуха, як ні цяхне па грудзе мяса, як ні адатне куска! На початку паложыт перад маладымі, а после перад сваткамі, сватамі, дружкамі, ну, і после усіх абдзеліт. Ведомо, аднаму пападзе лепшы кусок, другому горшы, а трэйцему то і зусім нікудышні. От, скажэм, кусок мяса з свінскае галавы або свіначэ вухо. Ніраз бывало, што такі госць з веселя варочаўся галодны. А калі сват быў чыйсь добры знакомы, то той так наеўсе, што яго аж распірало. Яно ведомо, што якая справедлівасць у жыцці, такая і на веселі: аднаму усё, а другому г....

Бывало, такі сват і падгаворвае, і падсмеўве, і вершыкі гаворыт — і костку паўголу абглодвае, а после яе пад стол або за акно шпургане. Ого, такі маршалок то быў на веселі велікі панок, што хацеў тое і вычвараў. Праўда, ні вельмі толькі яго баяліся запарожнікі. Тые то вельмі часто, ну, як тут сказаць, чаўпілі на яго, як толькі хацелі. Але ж і ён угрызаўсе як толькі мог. Як то гаворыцца: чорт сваё а поп сваё. От так і турзаліся тые запарожнікі з тым сватом праз цэлэ веселе".

Сказанае Юліяй Салавей знаходзіць пацвярджэнне і ў песенных куплетах, якія запарожнікі кіравалі ў адрас маршалка. Вось некалькі прыкладаў з Міхалоўскай гміны:

Маршалак мяса рэжа,
Яму з носа смаркач лезе,
А дружка падбегае,
Смаркач яму выцірае.
Або:
Наш маршалок — велікім паном,
Аж да пупа засмарканы,
Мяса рэжа ён нажом
І шмаруе смаркачом.

Варта адзначыць, што яшчэ ў даваенны перыяд у большасці вёсак вясельныя госці пры спажыванні ежы паслугоўваліся выключна рукамі, хаця і здараліся выпадкі, што той-сёй прыносіў свой нож або лыжку, якая была неабходная ў тым выпадку, калі падавалі на стол у вялікіх гаршках страву тыпу супу або халадзец.

**А. Баршчэўскі**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Мне 25 год. Я закончыла сёлета універсітэт і думаю дзесьці працаваць. На вялікі жаль, нідзе не магу знайсці працы ў горадзе. Я сама нарадзілася на вёсцы. Ад малога працавала, як конь, на гаспадарцы. Бацькі хацелі па ліцэі мяне выдаць замуж за нашага суседа, які меў усе машыны і быў на дзесяць год за мяне старэйшы. На шчасце, я здолела ўцячы ад гэтага. Цяпер, калі атрымала вышэйшую адукацыю, не думаю туды вяртацца. Хацела б нават выйсці замуж, бо ўжо ж і пара. Бацькі кажуць, што і „той" і „той" хочуць да мяне прыехаць у сваты. Я ім тлумачу, што гэта выглядае так, быццам бы апрача вясковых хлопцаў ніхто не звяртае на мяне ўвагі. Што з таго, калі я іх не хачу. Знаючы добра вясковых хлопцаў, не магу рызыкаваць сваім жыццём. У большасці яны маюць хамскія манеры і прападаюць за выпіўкай. Я хацела б мець мужа добрага, культурнага і далікатнага. І вось у апошнім часе я з такім пазнаёмілася. Ён па нацыянальнасці паляк. Гэта для мяне не адыгрывае ніякай ролі, ды і рэлігія таксама. Але бачыш, Сэрцайка, мае бацькі думаюць інакш. Яны сказалі, што адракуцца ад мяне, калі толькі выйду за Антка. Я да іх вельмі прывязана і не хацела б ісці супраць. Штосьці трэба аднак пастанавіць. Памажы мне, Сэрцайка!

**Людміла з Беласточчыны**

Людміла! Хамства — паняцце адноснае, і мае яно вельмі многа адценняў і праяў. Цікава, чаму ты вырашыла, што ўсіх вясковых хлопцаў характарызуе хамства? Хачу цябе запэўніць, што можа яно праяўляцца ўсюды і па-рознаму і не заўсёды знешні лоск ідзе ў пары з сапраўднай культурай. Заўзялася ты на вясковых хлопцаў, здаецца, без падставы. Ну, што ж, ты „вырасла" — універсітэт, горад і г.д. Навошта табе вясковы хлопец! Ты ж рызыкуеш нават... жыццём. А што, тыя хлопцы кусаюцца?

Сцвярджаючы вышэй сказанае, не хачу абразіць прадмет тваёго зацікаўлення. Але тут узнікае іншая праблема: пастава тваіх бацькоў. А трэба прызнаць, што як на сённяшнія часы, іх пастава даволі радыкальная. Разумныя бацькі павінны сказаць: „Рабі, дачушка, так, каб табе добра было!" Аднак, многім бацькам здаецца, што яны лепш ведаюць, з кім іх дзеці могуць быць шчаслівыя. Адсюль вынікае іх бескампрамісная пастава. Спрабуй растлумачыць сваім бацькам, што, калі нават выйдзеш за паляка і каталіка, не будзе абазначаць гэта, што не застанешся беларускай і праваслаўнай. Найважнейшае, каб чалавек застаўся сабою ў кожнай сітуацыі. Толькі тады будуць шанаваць яго іншыя. А шлюб у такім выпадку прапаную ўзяць толькі цывільны.

**Сэрцайка**

### НА НАШЫХ ДАРОГАХ

З кожным годам адкрываюць новыя аўтобусныя лініі ПКС на Гайнаўшчыне. Зараз аўтобусы ездзяць з Беластока ў Гайнаўку праз Тыневічы, Камень, Курашава, Койлы і Новае Беразова. Асфальт кладуць на дарозе з Нарвы ў Тыневічы. Ужо гатовы адрэзак з Нарвы да скрыжавання са жвіроўкай у напрамку вёскі Даратынка.

Спецыялістычныя машыны для пракладкі асфальту працуюць таксама на дарозе з Койлаў у Новае Беразова. З Новага Беразова да бельска-гайнаўскай шашы ўжо ўсе ездзяць па роўнай асфальтаванай дарозе. **(яц)**

## СОННІК

40

**Залог** — твая лёгкадумнасць давядзе цябе да затрат.
**Залп** (са зброі) — вясёлае здарэнне.
**Заляцанні** (да цябе прыгожай (га) жанчыны (мужчыны) — няўдача ў каханні; заляцацца да іншага (ае) — здароўе і шчасце; заляцаецца старая жанчына — будзеш нешчаслівая (ы) ў сямейных справах.
**Замазка** да акон (кіт) — у цябе ёсць верныя сябры.
**Замак** — дапамога ў небяспецы; жыць у ім — шчасце, багатае замужаства (жаніцьба); руіны — здрада ў каханні; палаючы — добрыя звесткі; уваходзіць — неспадзяваная прыгода; замкнуты — перашкоды.
**Замкнуць** — раскрыеш таямніцу.
**Замнога** чаго-небудзь — беспадстаўныя спадзяванні.
**Замураваць** — зробіш нешта дрэннае.
**Замачка** — неспадзяваны інтарэс, даходная праца.
**Замятаць** — фальшывыя сябры.
**Занавес** (у тэатры) — вялікае засмучанне.
**Запаведзі** — тваю просьбу адкінуць.
**Запалкі** — скарбы; свяціць — неспадзяванкі.
**Запамога** — нязздзейсненыя спадзяванні; даваць — цябе выкарыстаюць.
**Запас** — вялікі даход.
**Заплаціць** — вызваліцца ад клопатаў, турбот.
**Заплечны мяшок** (пляцак) — мілы госць; насіць — вандроўка; купляць — далёкае падарожжа, экскурсія.
**Запросіны** атрымаць — пакутуеш з-за свае ганарлівасці; высылаць — удзел у гасціне.
**Запруда** (тама) — шчасце.
**Запрэжка** — клопаты і турботы.
**Запэцкацца** — шчасце.
**Зара** — радасныя хвіліны; паўночнае ззянне — неспадзяваная радасная звестка.

## БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

### ЗАЦІРКА

Прасеяную пшанічную муку злёгку падсмажыць на патэльні без масла да светла-карычневага адцення, дабавіць крыху вады, сметанковае масла, яйкі, соль. Усё старанна перацерці. Атрыманыя рваныя камячкі цеста засыпаць у каструлю з кіпячым малаком. Варыць на невялікім агні, перыядычна памешваючы.

1,5-2 шклянкі мукі, 1-2 яйкі, 30-40 грамаў сметанковага масла, 6-7 шклянак малака, соль.

### ШЫЙКА ГУСІНАЯ

Шыйку гуся абпаліць, ачысціць, прамыць і нацерці молатым перцам і соллю. Прыгатаваць рассыпістую грэцкую ці ячную кашу, перамяшаць з дробна нарэзанымі і абсмажанымі на саланіне рэпчатай цыбуляй і кавалачкамі гусінай печані, начыніць шыйку, зашыць з абодвух бакоў. Пакласці ў гаршчок, памазаны тлушчам, дабавіць крыху вады, дробна нарэзаны корань пятрушкі, цыбулю, лаўровы ліст, закрыць крышкай і паставіць у печку ці духоўку.

1 шыйка гуся, 0,5 шклянкі грэцкіх ці ячных круп, гусіная печань, 50-80 грамаў тлушчу, 0,5 цыбуліны, 1 корань пятрушкі, лаўровы ліст, перац, соль.

### КАША З ГАРБУЗА

Спелы гарбуз пачысціць, прамыць, разрэзаць на невялікія кубікі, пакласці ў кіпячую ваду, дабавіць цукар, соль, варыць. Гарбуз працерці, дабавіць прасяную ці манную кашу, крухмал, соль, малако, паставіць у печ ці духоўку на 20-30 мінут.

600-650 грамаў гарбуза, 2-3 сталовыя лыжкі прасяной ці маннай кашы, 0,5-0,75 шклянкі малака, 1 чайная лыжка бульбянога крухмалу, 2 сталовыя лыжкі сметанковага масла, 1 сталовая лыжка цукру, соль.

**Гаспадыня**

Зорка
Старонка для дзяцей

Для самых маленькіх

Мікола Мінчанка

## Мы з Сярожам

Мы з Сярожам
дружбакі.
Рыбу вудзім
ля ракі.

Каму цяжка,
Калі ласка:
Мы з Сярожам
Дапаможам.
Падчапіць шчупака —
У нас моцная рука!

Ну, а самі
дзень каторы
Мы сядзім
Нібыта ў горы —
Не злавілі й карася.
Можа, рыба
з рэчкі ўся?
Нашы спіны пачарнелі.
Юшкі мы даўно не елі.
— Эх! — сказаў стары
рыбак, —
Не прыходзьце позна так.
Калі хочаш краснапёрку,
Дык бяжы сюды на золку.

Мы з Сярожам
Усё можам.
Але гора ў нас такое —
Мы з Сярожам ледзь
не плачам —
Ранне светла-залатое
Улетку з ім мы
не ўбачым.

Гора, гора нам, вядома;
Позна спім з Сярожам
дома.



Міраслаў Ваўрэнюк вельмі цешыўся, калі яго мама купіла качанят. Жоўценькія, пушысценькія, такія мілыя яны былі яшчэ ў час сенакосаў. Цяпер яны ўжо напэўна моцна падраслі.
Фота Я. Чэрнякевіч.

Васіль Вітка

## Дударык

Казка

Сеў у полі на каменьчыку,
Узяў дудку на раменьчыку.
Ду, ду, ду — дуда гудзе,
Полем водгалас ідзе.
Надакучыла іграць,
Каля дуба лёг паспаць.
Вісіць дудка на суку,
Спіць дударык на баку.
Павярнуўся дагары
І так моцна ён захроп —
Скалануўся дуб стары,
Дудка — бух у самы лоб.
Тут яму і сон не ў сон,
На ілбе гудзе ўжо гуз.
Не сабраў і трэсак ён,
Бо ад дудкі — толькі друз.
Падняў хлопец паясок,
Пайшоў з плачам у лясок:
— Куды дзецца мне цяпер?
Цікаваць буду цяцер.
Спадцішка пад куст падпоўз
І цяцёрку — хоп за хвост.
З пёрка выразаў дуду:
— Ой, зайграю, загуду.
Што было, тое сплыло,
Пайду з дудкаю ў сяло.
Я пад першы парог,
А мне з хаты — пірог.
Я на дудцы гу-гу-гу —
Усе нясуць па пірагу:
Мне і мамка — пірог,
Мне і татка — пірог,
Мне і дзядзька — пірог,
Мне і цётка — пірог,
Мне і дзедка — пірог,
І суседка — пірог,
І брацenік — пірог,
І пляменнік — пірог.
Назбіраў я пірагоў
Сорак восем карабоў.
Каб яшчэ адзін пірог,
Я зусім бы абнямог.
Перастань, дуда, дудзець!
Дзе мне пірагі падзець?
Сабралася ўся радня,
Памагчы ўсе рады мне.
Запрагаюць каня —
Ён і воза не скране.
Падагналі грузавік,
Для яго — груз вялік.
Папрасілі самазвала,
У самазвала сілы мала.
Залучыў я камара,
Магутнага званара.
Той адразу ўзяў мой воз,
Пірагі мае павёз.
Ай камар-маладзец!
Тут і казкі канец.



Уладзімір Волкаў

## Я зноў да вас прыеду

У вёсцы, куды Лена прыехала на лета, было ўсяго чатыры хаты. За хатамі — лес. Некалькі пухатых елачак выбеглі з лесу, убачылі вёсачку і спыніліся. Так яны і стаяць пасярэдзіне, між лесам і хатамі. Не ведаючы, куды падацца: ці то вярнуцца назад у лес, ці то паглядзець, што там далей.

А далей, перад хатамі — луг. Увесь у кветках. Над кветкамі лётаюць матылькі. Калі яны, змарыўшыся, прысядаюць адпачыць, луг робіцца яшчэ больш каляровым.

### Чорнае куранятка

У бабулі курка вывела куранят. Усе кураняты белыя, а адно чорным нарадзілася. Не любіць яго курка. За свайго не прызнае. Як толькі падыйдзе, дзяўбе яго. Куранятка ўвесь час жаласна пішчыць і падае, распасцёршы крылцы.

— Я сама яго выкармлю! — вырашыла Лена.

Назвалі куранятка Чарнючком. Прачынаўся Чарнючок раней за ўсіх. Выскакваў са свайго кошыка і пачынаў бегаць па хаце. „Тук-тук-тук“, — як гарох сыпаўся на падлогу. Лена ўставала і насыпала ў сподачак зярнятак. Пастукае пазногцем па сподачку, і Чарнючок з усіх ног да яе нясецца.

А вечарамі Лена з бабуляй сядала на ганку. І Чарнючок тут жа побач — галоўкай круціць, перад ганкам важна пахаджвае.

— Вось разумніца, — хваліць бабуля Лену. — Такога пеўнічка выгадавала!

### Яшчэ адзін сябар

Нечакана ў Лены паявіўся яшчэ адзін сябар-прыяцель, сабачка па мянушцы Пушок. Жыў ён у адзінокага дзядулі Трахіма.

Як толькі дзядуля выходзіў з дому, Пушок пачынаў бегаць па ўсёй вёсцы. Імчыць на зламанне карку, і раптам — стоп! І здзіўлена аглядваецца: куды гэта мяне занесла? і зноў ляціць некуды.

Неяк раз вось так ён аказаўся каля Ленінай хаты. Булка яму адразу спадабалася: і смачная, і хрумстае. Спадабалася і Лена — яе голас, казычачыя рукі і... пяткі. Яны заўсёды так смешна мігалі ў яго перад носам.

— Ты, Трахім, аддаў бы нам сабачку, — папрасіла старога Леніна бабуля. — Бачыш, як яны з Ленай пасябравалі.

— Чаго ўжо цяпер казаць, як распесцілі... Забірайце, — махнуў рукой Трахім.

І пачаў Пушок жыць у Лены. Разам яны хадзілі ў лес. Разам на ваду бегалі. Разам купаліся.

Лена войдзе ў ваду, і Пушок туды ж — плюх! І да яе. Падплыве і глядзіць у вочы: а ты не на другі бераг, не кінеш мяне?

### Ластаўкі

Лена заўважыла: два разы ў дзень, раніцай і вечарам, ластаўкі, што жылі ў іх пад страхою, рассаджваюцца на перакладзіне ля акенца пад страхою і, круцячы сваімі чорнымі галоўкамі і штораз нахіляючыся адна да другой, аб нечым размаўляюць.

(Працяг на стар. 10)

# У НАШАЙ ГРАМАДЦЫ

**Падручнік беларускай мовы для пятага класа**
**Аўтары: Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

### ПРЫКМЕТЫ ВОСЕНІ

— Якія ў восені прыкметы?
Вядома вам? Скажыце вы.
— На крылах бабінае лета
Нясуць у вырай жураўлі.

— І ўсё?
— Не ўсё. Нясе вавёрка
Арэхі спелыя ў дупло;
Лістамі сцеле вожык норку,
Каб цёпла ў ёй зімой было.

— І ўсё?
— Не ўсё. Мядзведзь бярлогу
Між ельнічку свайго глухога
Шукае, ляжа ў снегапад;
Буслы на поплаве, за стогам,
Сышліся быццам на парад;
Важак і лекар іх буслiны
З чародкі гоніць недарэк.

— І ўсё?
— Не ўсё. Гараць каліны.
Крывёй наліты каля рэк.

— І ўсё?
— Не ўсё. У родным полі
Рунь сцелецца, плыве ў працяг,
І як ніколі, як ніколі,
У вёсках, сёлах, гарадах.
Прапах укропам, духам кменным
І кожны дом, і кожны стол.

— І ўсё?
— Не ўсё. У нашы крамы
Прыйшоў хлеб новы з родных сёл.

— І ўсё?
— Не ўсё. Ідуць вяселлі,
Садзіцца шчасце на пасад.
І снежных ветраў каруселі
Нястомна кружаць каля хат.

**Антон Бялевіч**

*1. Пра якія прыкметы восені паэт сказаў у вершы, а пра якія не сказаў. Назавіце іх.*

*2. Прачытайце верш з падзелам на ролі: пытаючы і адказваючы (усім класам).*

*3. Складзіце план сачынення на тэму „Прыкметы восені“ апавядальнымі сказамі. Напішыце паводле гэтага плана сачыненне.*

*4. Прачытайце тэкст. Знайдзіце прыметнікі і тыя назоўнікі, да якіх яны дапасоўваюцца. Прыдумайце загаловак.*

У электрычную печ кладуць шкляны шарык велічынёй з гарошыну. Праз некалькі хвілін ён ператвараецца ў тонкую нябачную вокам нітку доўгую на кіламетр. Такія звыштонкія валокны атрымліваюць у нашай краіне. Гэтыя ніткі можна параўнаць з найтанчэйшай павуцінай. Гэтае „прадзіва“ ў сто разоў танчэйшае за чалавечы волас. Кубічны метр такога валакна важыць усяго пяць кілаграмаў. Яно выкарыстоўваецца ў розных галінах сучаснай тэхнікі

*5. Дапішыце прыметнікі з процілеглым значэннем.*

Дуб высокі, а бэз ... . Камень цяжкі, а паветра ... . Лета цёплае, а зіма ... . Вада павольная, а вецер ... . Камень цвёрды, а гліна ... . Рака шырокая, а ручэй ... .

*6. Падбярыце да назоўніка прыметнікі, якія б паказвалі яго розныя ўласцівасці і якасці.*

**Узор.** Вучаніца старанлівая, працавітая, невысокая.

Вёска, паліто, дрэва, фільм, сліва, лета.

(Працяг са стар. 9)

### Я ЗНОЎ ДА ВАС ПРЫЕДУ

Пагаварылі — і ў розныя бакі. І цэлы дзень іх разам не бачаць. Толькі — чырк! — і ў акенца. чырк! — і назад.

І толькі падвечар яны зноў збіраюцца. На той самай перакладзінцы. І зноў вядуць размову.

— Бабуля, аб чым яны цўкаюць? — спытала Лена.

— Як, аб чым? Раніцай — аб тым, што трэба за дзень зрабіць. Колькі чарвячкоў, мушак дзецям прынесці, дзе вады раздабыць, што ў гняздзе направіць. А вечарам яны абмяркоўваюць, як папрацавалі, ці не ленаваўся хто, спрытнейшых хваляць..

### СТАРЫ КОНЬ

Недалёка ад Ленінай хаты касіў траву ляснік. Ён прыязджаў на кані. Пакуль ляснік касіў, конь, спусціўшы галаву, стаяў у цені ліпы.

— А чаму ён такі сумны? — спытала Лена.

— Стары ён, — коратка адказаў ляснік.

Неяк Лена ўбачыла, як ляснік, паеўшы, сабраў з паперы ўсе крышынкі і паклікаў каня.

— А мне можна даць яму хлеба? — спытала Лена.

— Колькі хочаш.

І Лена пачала прыносіць каню кавалкі чорнага, пасыпанага соллю хлеба.

Конь, здалёк убачыўшы Лену, ішоў да яе насустрач. А з'еўшы ўвесь хлеб, доўга яшчэ тыцкаўся ў Леніны далоні сваімі мяккімі асцярожнымі губамі. А потым клаў ёй на плечы галаву і шумна ўздыхаў.

* * *

Прыйшоў час Лене вяртацца ў горад. Праводзілі яе ўсёй вёскай. Трахім перавёз Лену праз рэчку.

— Добрая ў вас дачка, добрая, — сказаў ён Ленінай маме — Не забывайцеся пра нас, прыязджайце! Разам з Пушком!

Узнялася Лена на высокі бераг. Паглядзела на вёску. Хто гэта? Да ракі імчаў рыжы кот „Мабыць, піць захацеў. — падумала Лена. — А можа, раз вітацца са мною прыйшоў.“ І памахала кату рукой. На ўсялякі выпадак.




### ПОМНІКІ

Як гэта ні дзіўна, існуюць помнікі нават жывёлам-шкоднікам, якія тым ці іншым чынам паслужылі чалавеку.

У канцы XIX стагоддзя з Бразіліі ў Аўстралію былі завезены кактусы. З іх пачалі рабіць жывыя агароджы. Яны так хутка раслі, што да 1925 года пакрылі тэрыторыю ў 260 тысяч квадратных кіламетраў. Кактус займаў усё новыя і новыя ўрадлівыя землі. Паспрабавалі яго высякаць, выпальваць, атручваць — нішто не памагала.

Выручыла кактусавая моль, прывезеная з Бразіліі. Пражэрлівыя вусені молі з'ядалі кактусы да самых каранёў. Праз нейкі час аўстралійцы маглі святкаваць перамогу, а ў падзяку ў даліне ракі Дарлінг яны паставілі помнік кактусавай молі.

А ў ЗША (у горадзе Энтрэрпрайс) у 1919 годзе збудаваны помнік бавоўнянаму даўганосіку. Жыхары штата вырошчвалі бавоўну, пакуль на пачатку стагоддзя даўганосік, які хутка размнажаўся, не знішчыў усе плантацыі. Каб землі не пуставалі, іх засадзілі арахісам (земляныя арэшкі), і новая расліна прынесла ім незлічоныя багацці. Удзячныя жыхары паставілі даўганосіку помнік: Цэрэра — багіня ўраджайнасці трымае над галавою жука.

### САКРЭТ ВЯРБЛЮДА

Здольнасць вярблюда доўгі час абыходзіцца без вады прыцягвае ўвагу вучоных. Паводле паведамлення іракскага друку, нядаўна трое вучоных правялі 16-дзённы эксперымент, у ходзе якога жывёліне не давалі піць. Яны прыйшлі да вываду, што сакрэт доўгацярпення „карабля пустыні“ заключаецца ў надзвычай развітай слізістай абалонцы носа. Яе плошча складае 1000 квадратных сантыметраў, у той час, як у чалавека ўсяго 12. Гэта дазваляе жывёліне ўлоўліваць да 70 працэнтаў вільгаці, якая знаходзіцца ў навакольным асяроддзі. Прычым гэты прыродны фільтр абсарбіруе вільгаць не толькі пры ўдыху, але і пры выдыху.

### ВОСТРАЎ ЯНОТАЎ

Як пазбавіцца ад янотаў? Гэтая праблема хвалюе жыхароў невялікага японскага астраўка Чыбуры. Астравок настолькі перанаселены гэтымі звярамі, што насельніцтву літаральна даводзіцца змагацца за сваё існаванне.

Першую пару янотаў завезлі сюды ў 1930 годзе з мэтай атрымання футра для японскай арміі. Аднак у час сусветнай вайны адлоў янотаў быў спынены, і звяркі пачалі размнажацца, як кажуць, не па днях, а па гадзінах. Цяпер іх пагалоўе перавышае насельніцтва астраўка больш як у пяць разоў: на 1100 жыхароў даводзіцца каля 6000 янотаў. Яны знішчаюць пасевы, корм для хатняй жывёлы. запасы прадуктаў.

## -А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А-



Памалюй карцінку каляровымі алоўкамі.



Адрас рэдакцыі. „Зорка“ 15-95 Białystok ul Wesołowskiego 1

## СЛУХАЕМ І СПЯВАЕМ

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкім радыё ў суботу 4 кастрычніка а 18-й гадзіне.

### ТРЭБА ДОМА БЫВАЦЬ ЧАСЦЕЙ

**(З рэпертуару Л. Барткевіч)**

**Трэба дома бываць часцей,**
**Трэба дома бываць не госцем,**
**Каб душою ты стаў чысцей**
**І не страціў святое пітосьці.**

**Помніць свой на іржышчы цень,**
**Не забыць, як завуць суседа,**
**Помніць, як сустракае дзень**
**За сяброўскім сталом бяседа.**

**Не забыць, як марозам злым**
**Клямка пальцы пячэ балюча**
**І адкуль на стале тваім**
**Бохан свежага хлеба пахучы.**

**Трэба дома бываць часцей...**

* * *

Ніколі б думка ў голаў не прыйшла
Быць светачам, не маючы святла.
І ўсё ж... здаўна сцвярджаем:
„Месяц свеціць...“

Сцвярджаем так, нібыта самі — дзеці,
І розумам ніяк не дабяром:
Што ён жа свеціць не сваім святлом.

Прывыклі не працівіцца мане.
Але ж мана не роўніцца ў цане.
Як пылянятка жоўтае валу,
Сапраўднаму прыроднаму святлу.

Хоць разумеем, што фальшыўка — зло,
Ды несвятло прымаем за святло.

**Алесь Бачыла**



# НІЎКА



— Скажыце праўду, доктар, у мяне што-небудзь сур'ёзнае?

### НА ЭКЗАМЕНЕ

Дамініка вярнулася з экзамена з перабінтаванай рукой.

— Ну што, ты здала на вадзіцельскае права?

— Не ведаю, інструктар яшчэ ў бальніцы.

### У СУДЗЕ

— Навошта вы прыцягнулі на суд лом?

— Дык жа ў павестцы зазначана, што я маю паклапаціцца пра сваю абарону.

### ЁСЦЬ ДЫСЦЫПЛІНА!

— У вашым класе ёсць дысцыпліна?

— Трошкі ёсць.

— А хто з вас самы дысцыплінаваны?

— Настаўніца.

### А ТАК ХАЦЕЎ

Вяртаюцца двое сяброў „пад газам“ дадому.

— Ты мяне бачыш? — пытае адзін.

— Не. А ты мяне?

— Таксама не.

— Шкада, а я ж абяцаў жонцы прыйсці дадому завідна.

### У КІНАТЭАТРЫ

У кінатэатры будзяць пасля сеанса аднаго задрыпанца. Той нездаволена расплюшчвае вочы і мармыча:

— Не буду больш хадзіць на аднасерыйныя фільмы, бо што гэта за сон?

### У ЗАДРЫПКОЎСКІХ

Пан Задрыпкоўскі, як звычайна, за снеданнем паглыбіўся ў чытанне ранішняй газеты. Жонка намагаецца выклікаць яго на размову:

— Учора я была ў доктара...

— Так?.. Ну, і як ён сябе адчувае?...



**Ні перад кім не схіляў галавы: баяўся, што зваліцца лаўровы вянок.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Залезлі Іван і Даніла з мяшкамі ў калгасны сад. Думалі, што абдураць вартаўніка. А ён тут як тут і — бабах! Хлопцы стрымгалоў з саду. Убачылі ля пасадкі матацыкл — і на яго. Даніла — у каляску, а Іван — за руль. Праз нейкі час Даніла крычыць:

— Цішэй едзь, бо ў мяне каляска без дна!

— А ты думаеш, што матацыкл з рухавіком?! — крыкнуў яму Іван.

*

— Прыйшлі за ахвяраваннем на пабудову новага басейна! — крычыць жонка мужу-шатландцу. — Што ім адказаць?

— Дай ім тры, не, два вядры вады, — адказвае муж.

*

— Сяржант Біл, яшчэ раз праверце асабістую справу навабранца Сіменса. Кожны раз пасля заняткаў па стральбе ён старанна спірае сляды пальцаў на прыкладзе.

### ВЫСНОВА

Гуляючы аднойчы ў лесе, чалавек прыкмеціў, што ляцяць трэскі. Ён падышоў бліжэй, убачыў — сякуць тоўстыя дровы. Без вялікіх намаганняў ён уцяміў, што, калі трэскі ляцяць, то сякуць лес. Потым на падставе гэтага ён зрабіў выснову і стварыў прымаўку:

„Трэскі ляцяць — лес сякуць“.

**З „Весніка Задрыпоніі“**

### РУБЯЖЫ ЭКАНОМІІ

Уключыўшыся ў барацьбу за эканомію электраэнергіі, аўтаінспектары горада Шчырыўска ўключаюць цяпер светафоры толькі ў гадзіну пік.

### ПРАВІЛА МАЙСТРА ДУБОВІЧА

Сачы за сваёй прамовай. Памятай, што, апрача „значыць“ і „гэтак кажучы“, яна павінна ўключыць і іншыя выказванні.

### ЖЫВАПІСЦЫ



Рэаліст піша тое, што бачыць.



Сімваліст ахоплівае сутнасць рэчаў.

# Курёзы

### АБНІМІЦЕ МЯНЕ

Вядомы французскі гумарыст Трыстан Бернар абедаў аднойчы ў рэстаране і быў вельмі нездаволены кухаркамі.

— Паклічце гаспадара, — сказаў ён, расплаціўшыся.

Гаспадар прыходзіць і Бернар гаворыць яму:

— Абнiміце мяне.

— Што?

— Абнiміце мяне.

— Але чаму, мсье?

— На развітанне. Вы ніколі мяне больш не ўбачыце.

### ДРЭННА – ДОБРА

Дыяген гаварыў пра кепскага музыканта, які надакучыў усім сваёй дрэннай ігрой:

— Трэба пахваліць чалавека за тое, што, будучы такім нікудышнім музыкантам, ён усё ж не кідае музыку, займаецца ёю, а не робіцца зладзеем.

### АБВЯРЖЭННЕ

Незадоўга да свайго дзевяностадвухгоддзя Б. Шоу прачытаў у адной газеце паведамленне аб сваёй смерці. „Паведамленне заўчаснае: я яшчэ пажыву...“ — тэлеграфаваў Шоу. — Надрукуйце абвяржэнне“.



**Не давай сябе раскусіць — з'ядуць.**